© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

13 ліпеня 2001 года
№ 28 (325)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна

### У Эслінгене занепакоеныя

**МАЛАДЗЕЧНА.** Афіцыйныя стасункі паміж гарадамі-пабрацімамі Маладзечнам і нямецкім Эслінгенам-на-Некары працяглы час «замарожаныя». Нямецкі бок асноўнай прычынай называе палітычнае становішча ў Беларусі, знікненне **Віктара Ганчара** (у Эслінгене летась яму прысудзілі прэмію Тэадора Хекера «За палітычную мужнасць і сумленнасць»). Днямі мэр Эслінгена **Юрген Цыгер** накіраваў ліст прэзідэнту Расіі **У. Пуціну**.

Там утрымліваецца просьба «скарыстаць палітычны ўплыў, які існуе ў рамках саюза з Беларуссю», з тым, каб былі расследаваныя справы аб знікненні беларускіх палітыкаў, у тым ліку, Віктара Ганчара. Жонка былога першага намесніка старшыні Маладзечанскага гарвыканкома **Зінаіда Ганчар** раней звярталася ўжо да Пуціна. Немцы даслалі і ёй копію свайго ліста.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Новы чыгуначны прыпынак

МАЛАДЗЕЧНА. У раёне шостага мікрараёна пачаліся работы на новым чыгуначным прыпынку «Фестывальны» (прапанова гарвыканкома) паміж Маладзечнам і Селівонаўкай. ААТ "Будаўнік-197" займаецца непасрэдна прыпынкам, ААТ "Спецбудмеханізацыя" – добраўпарадкаваннем пад'язных дарог.

Дырэктар «Будаўніка-197» **Пётр Сянько** гаворыць, што прыпынак трэба пабудаваць за 2 месяцы замест 6 праектных. Шанцы ўкласціся да 1 верасня ёсць, бо ў будаўніцтве зацікаўленыя і задзейнічаныя некалькі арганізацый. Яны могуць рэальна паскорыць працэс.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Маланка трапіла ў будынак міліцыі

ВІЛЕЙКА. Урон на некалькі дзесяткаў мільёнаў рублёў райаддзелу ўнутраных спраў нанесла маланка. Навальніца прайшлася над горадам тыдзень таму.

У выніку выйшлі са строю ўнутраная АТС, сігналізацыя, камп'ютэры. Усё – імпартны вытворчасці. Як сказаў начальнік Вілейскага РАУС **Уладзімір Жыхар**, да іх прыедуць спецыялісты з міністэрства ўнутраных спраў, каб дакладна ацаніць суму ўрону.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### На аўтавакзале новыя работнікі

МАЛАДЗЕЧНА. 15 чэрвеня аўтавакзал абзавёўся 6 камп'ютэрамі. Машыны ўсталяваныя ў касы для продажу білетаў.

Начальнік вакзала **Фаіна Лінкевіч** расказала, што электроніка пакуль не задавальняе ні пакупнікоў, ні саміх работнікаў. Па-першае, не праведзенае навучанне персаналу рабоце з камп'ютэрамі, па-другое, сама машына выдае білеты даўжэй, чым гэта раней рабілі людзі. Можна ўбачыць вялікія чэргі і незадаволенасць пасажыраў. Хаця, магчыма, "новыя работнікі" выціснуць з работы частку "старых" – людзей.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Раённае добраўпарадкаванне

ВАЛОЖЫН. За апошні месяц у горадзе пачалі ўкладваць плітку ля касцёла, адрамантавалі фасады некалькіх жылых дамоў, будынак вузла сувязі. Крыху раней зрабілі стаянку для аўтамашын насупраць аўтавакзала.

Загадчык аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва **Таццяна Чупрыс** сказала, што сродкі выдзяляюць і бюджэт, і асобныя прадпрыемствы.

Канкрэтныя планы ёсць і па далейшым добраўпарадкаванні, асабліва цэнтральнай часткі. Але раённы бюджэт арыентаваны на датацыі з вобласці. Тое, што збірае раён, ідзе ў асноўным, на зарплаты бюджэтнікам. Таму абыходзяцца адзінкавымі мерапрыемствамі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 14 ліпеня**

**Мінск**
13 – 18°С (уначы)
25 – 26°С (удзень)



**Вільня**
15°С (уначы)
26°С (удзень)



**Нядзеля, 15 ліпеня**

**Мінск**
15 – 16°С (уначы)
25 – 25°С (удзень)



**Вільня**
15°С (уначы)
25°С (удзень)



# 18 дзён у арміі



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Валожын, 9 ліпеня, стадыён вайсковай часці. Падлеткі са спартыўна-патрыятычнага летніка ў чаканні палатак.**

ВАЛОЖЫН. 9 ліпеня адкрыўся спартыўна-патрыятычны летнік "Патрыёт". 50 падлеткаў ад 12 да 16 год, якіх прынята называць "цяжкімі", за 18 дзён пройдуць курс маладога байца. Курсанты будуць жыць у палатках на стадыёне вайсковай часці.

У праграме летніка запланавана шмат мерапрыемстваў. Адбой і пад'ём – па салдацкім раскладзе. Хлопцы зоймуцца страявой, будуць "стаяць на тумбачцы", падшываць падкаўнерыкі. Яны ўбачаць, як разабраць і сабраць аўтамат, пастраляюць на палігоне.

**Заканчэнне на 2-й стар.**

## Экспрэс-апытанне валожынцаў

**У панядзелак маладых валожынцаў адпраўлялі ў армію. Ля ваенкамата сабраліся некалькі дзесяткаў іх праважатых. У іх мы і спыталіся:**

# – Што вы цяпер адчуваеце?

**Веніямін Ярашэвіч, прызыўнік:**
– Што зробіш, усе служаць. Буду ў адной часці з сябрам, можа, хоць лягчэй будзе. Ён там паўгода адслужыў. Што буду рабіць пасля арміі – пабачым. Цяпер галоўнае – адслужыць.



**Аляксандр Мазалеўскі, нідзе не працуе:**
– Я сам не служыў, таму страшнавата адпраўляць сябра **Руслана Ланковіча**. Не ведаю, што яго там чакае.

**Валерыя Шаблоўская, абітурыентка:**
– Праводжу свайго хлопца, **Веніяміна Ярашэвіча**. Мы знаёмыя даўно, а сустракаемся год. Натуральна, мне сумна. Буду чакаць.



**Канстанцін Гевель, прызыўнік:**
– Нічога ўжо не адчуваю. Праз 2 дні пайду сам. Сёння праводжу сябра **Славу Лагуціна**. Напэўна, служыць трэба. Таму што трэба.



**Марыя Матус, майстар вытворчага навучання:**
– Прыемна тут бачыць шмат выпускнікоў ПТВ, дзе я працую, бо цяпер не кожны па стане свайго здароўя здольны служыць. Сёння праводжу суседа **Валодзю Караля**. Ён будзе служыць у Маладзечне. Лічу, што кожны мужчына павінен адслужыць. Я не буду баяцца аддаваць сваіх сыноў у армію, калі яны падрастуць.



**Надзея Ярашэвіч, маці прызыўніка:**
– Як і ўсе маці, хачу, каб у сына былі справядлівыя камандзіры, каб не было дзедаўшчыны. Няхай служыць, але я лічу, што лепш, каб у нас была армія наёмная. Хто хоча зарабляць грошы на службе, няхай служыць. А калі нехта не жадае, то і не трэба.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



■ МЕРКАВАННЕ

# «Будучыня» у лічбах

МАЛАДЗЕЧНА. Мужчына. Жанчына. Сям'я. Дзеці. І так з пакалення ў пакаленне. Гэтак жа паступова адбываецца і тое, што дзеці забяспечваюць старасць бацькам. Не толькі ў пераносным сэнсе, але і ў самым прамым.

Усе работнікі плацяць грошы ў пенсійны фонд. Кожнае дзіця, такім чынам, працуе не толькі на сябе, але і на сваіх бацькоў. Мы плацім 1% ад заработнай платы і яшчэ 35% наймальнік (тое прадпрыемства, дзе працуе чалавек). Прычым, калі выяўляюцца неплацельшчыкі, то наймальнік выплачвае штраф, сума якога залежыць ад сітуацыі. Мінімальная ж і максімальная пенсіі, прыкладам, за май складалі 26962 рублі і 79061 адпаведна.

Але як быць, калі ў адной сям'і адно дзіця, а ў другой – больш. Калі бацькі гадуюць некалькіх дзяцей, то і сродкаў, і сіл выдаткоўваюць больш за тыя сем'і, у якіх адно дзіця. А вось страхавыя выплаты "дзеляцца" на ўсіх незалежна ад таго, колькі ёсць дзяцей. Прычым, працуючых, непасрэдна з якіх і ідуць адлічэнні.

Шкада, што пры налічэнні пенсіі не ўлічваецца, колькі дзяцей выгадавалі бацькі і чым ахвяравалі ў імя дзіцяці. Далёка не заўсёды (часцей, наадварот) бацькі, якія выгадавалі шмат дзяцей, атрымліваюць пенсію большую.

Як вядома, пенсійны ўзрост для жанчын – 55 год, а для мужчын – 60. Сярэдняя ж працягласць жыцця – 69 год для жанчын і 59 год для мужчын. Такім чынам, пасля выхаду на пенсію жанчына атрымлівае яе да смерці каля 14 год. Гэта значыць, што чалавек атрымлівае пенсію значна менш год, чым працуе на яе. А большасць мужчын нават не дажывае да пенсійнага ўзросту.

Гавораць, што дзеці – наша будучыня. Але ўсё часцей сем'і не хочуць мець другое, трэцяе, а то і першае дзіця. І тут неабходныя лічбы.

Дзіцячае харчаванне даражэйшае за дарослае. Малочныя сумесі, вага якіх не больш за 500 грамаў, каштуюць ад 1200 да 11000 рублёў, пюрэ з агародніны і садавіны – 150–1300 за 250 грамаў, мясныя – 340–1600 за 100 грамаў, сокі – ад 1 тысячы рублёў і вышэй за 1 літр. Кошт залежыць, зразумела, ад вытворцы.

А яшчэ памперсы, якія каштуюць ад 7500 рублёў ды розныя дробязі, без якіх немагчыма абысціся. Дзіцячае адзенне, абутак і лекі маюць амаль такія ж цэны, як усё дарослае.

Дапамога на дзіця складае не больш за 20000 рублёў штомесяц. А па дасягненні 3-гадовага ўзросту зусім не аказваецца. Дзіцяці ж патрэбна ўсё больш і больш ды яшчэ плюс аплата за садок (звыш за 8000), розныя гурткі і інш. А калі сям'я нават не мае ўласнага жылля?

Дык ці ёсць жа сэнс у гэтай "будучыні", у тым, каб сям'я змагла нарадзіць і выгадаваць як мага больш дзяцей?

**Ірына РАБУШКА.**

# «Узорныя» кавуны



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Заўчора на маладзечанскім калгасным рынку кавуны прадавалі строга па выстаўленым узоры. Прадаўцы на поўным сур"ёзе сцвярджалі, нібы ўвесь іхні тавар «сертыфікаваны» менавіта пад такой спеласці ягаду.**

■ ПРАЦОЎНАЕ НАВУЧАННЕ

# «Надзея»: новыя спецыяльнасці

**МАЛАДЗЕЧНА. З новага навучальнага года на вучэбна-курсавым прадпрыемстве "Надзея" уводзяць новыя спецыяльнасці.**

У "Надзеі" гавораць, што гэта будуць курсы замежных моў, лічбавай фатаграфіі, візажыстаў і масажыстаў. Гэтыя спецыяльнасці разам са швейнымі уваходзяць у паняцце "бытавое абслугоўванне".

– А наша прадпрыемства і мае акрэдытацыю на работу у гэтай сферы. Летась мы набралі групу цырульнікаў, – удакладняе дырэктар **Любоў Чуркіна**.

20% навучэнцаў складаюць іншагароднія. Сёлета тут прадстаўлены амаль увесь наш рэгіён, за выключэннем Ашмянскага раёна.

"Надзея" знаходзіць рэсурсы для пашырэння сваіх магчымасцяў. Л. Чуркіна гаворыць, што неабходныя абсталяванне і выкладчыкі, нягледзячы на ўсе цяжкасці, знойдуцца. Былі б толькі жадаючыя вучыцца.

Мінус у тым, што курсы не даюць сярэдняй адукацыі. Пасля заканчэння нельга паступіць у ВНУ. Нягледзячы на добрую, па словах майстроў і навучэнцаў, адукацыю, выпускніцам цяжка працаўладкавацца з прычыны адсутнасці досведу работы на прадпрыемствах. Але намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Ала Сафарава** лічыць, што пры жаданні навучанне на курсах можна сумясціць з завочным ці вячэрнім навучаннем у школе. Некаторыя навучэнкі раней так і рабілі.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Навучанне ў «Надзеі» мае, найперш, практычную аснову.**

Будучыя краўчыхі **Лена Мікуліч** (Вілейка) і **Света Клімянок** (Шылавічы Вілейкага раёна) прыйшлі сюды па накіраванні цэнтра занятасці. Першая – пасля заканчэння школы, другая – пасля ПТВ. Святлана працавала, але не па спецыяльнасці – цяжка знайсці работу.

Закройшчыцы верхняга жаночага і мужчынскага адзення **Лена Ермакова** са Смаргоні і **Люда Коўтун** з Чысці паступілі пасля 11 класаў. Плацяць за навучанне самі. Хацелі б прадоўжыць навучанне па спецыяльнасці ў ВНУ.

**Лена Максімовіч** (Раёўка, Маладзечанскі раён) мае базавую адукацыю. Гаворыць, спецыяльнасць падабаецца. Мяркуе год папрацаваць, а потым паступаць у тэхнікум.

Не мае сярэдняй адукацыі будучая закройшчыца лёгкіх жаночых сукенак **Наташа Вайцяшонак** (Раманы, Маладзечанскі раён). Паступіла пасля 10 класаў. Летась не прайшла па конкурсе ў палітэхнікум. Пра што не шкадуе. Сюды падказала зявярнуцца сяброўка, якая сама скончыла падобныя курсы.

Маладзечанка **Наталля Лашчэўская** працавала выхавальнікам у дзіцячым садку. Але малы заработак прымусіў пайсці на вучобу.

Амаль усе жадаюць працягваць адукацыю. Гавораць, што не шкадуюць, што вучацца у "Надзеі". Навучыліся шыць для сябе і працуюць на заказ. Большасць носяць на сабе адзенне ўласнай вытворчасці.

Але ніводная з іх не мае канкрэтных прапаноў наконт будучага працаўладкавання.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 5 ліпеня | 12 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 1382,00 руб. | **1392,00 руб.** |
| Нямецкая марка | 598,35 руб. | **611,90 руб.** |
| Літ | 345,41 руб. | **347,91 руб.** |
| Расійскі рубель | 47,54 руб. | **47,67 руб.** |
| Злоты | 345,50 руб. | **308,99 руб.** |
| ЕЎРА | 1170,28 руб. | **1196,77 руб.** |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1400 – 1430 руб. | **1400 – 1430 руб.** |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 4.07 | 11.07 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2100 | **2400** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6199 | **6310** |
| Сасіскі, 1 кг | 2340 | **2900** |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | **1650** |
| Рыс, 1 кг | 550 | **550** |
| Грэчка, 1 кг | 450 | **450** |
| Цукар, 1 кг | 660 | **720** |
| Алей, 1 л | 860 | **860** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | **680** |
| Маянэз, 200 г | 250 | **250** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | **1500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | **460** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | **400** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 650 | **650** |
| Капуста, 1 кг | 350 | **300** |
| Агуркі, 1 кг | 450 | **400** |
| Памідоры, 1 кг | 1000 | **1200** |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | **1450** |
| Апельсіны, 1 кг | 1750 | **1740** |
| Чарэшня, 1 кг | 1600 | **1500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 1500 | **1500** |
| Кавуны, 1 кг | 950 | **950** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | **1000** |
| Масла, 1 кг | 2400 | **2400** |
| Тварог, 1 кг | 700 | **800** |
| Малако, 1,5 л | 350 | **350** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | **900** |
| Бульба, вялікае вядро | 800 | **800** |
| Бульба маладая, 1 кг | 600 | **450** |
| Морква, 1 кг | 1350 | **600** |
| Морква маладая, 1 пучок | 500 | **300** |
| Клубніцы, малое вядро | 4000 | **5000** |
| Чарніцы, малое вядро | 3000 | **3500** |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 3500 | **3000** |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 2500 | **2500** |
| Суніцы, малое вядро | 8000 | **5000** |
| Маліны, малое вядро | 5000 | **3000** |
| Вішні, малое вядро | 4500 | **3000** |
| Агрэст, малое вядро | 3000 | **2500** |

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

# У рэгіёне 4108 беспрацоўных

| | Кольк. беспрацоўных на 1 ліпеня | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1467 (-35) чал. | 2,4% |
| Маладзечанскі раён | 286 (+30) чал. | 1,2% |
| Астравецкі раён | 350 (-4) чал. | 2,4% |
| Ашмянскі раён | 141 (+1) чал. | 0,8% |
| Валожынскі раён | 171 (+9) чал. | 0,8% |
| Вілейскі раён | 391 (-43) чал. | 1,2% |
| Мядзельскі раён | 212 (-32) чал. | 1,1% |
| Смаргонскі раён | 1090 (+3) чал. | 3,3% |
| **Усяго па рэгіёне** | 4108 (-71) чал. | 1,9% |

У дужках – змяненне колькасці беспрацоўных у параўнанні з пачаткам мая.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# І ўсё ж патрабуйце чэк!

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля выхаду дэкрэта "Аб увядзенні адзінага падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў" на рынках горада не заўсёды выдаюць пакупнікам чэкі.**

Прадаўцы тлумачаць, што ў падатковай інспекцыі не патрабуюць адрыўныя талоны. Пасля таго, як абутак псуецца, пакупнікі ідуць у арганізацыю па абароне правоў спажыўцоў. Дапамагчы там не могуць, бо без чэка немагчыма даказаць факт куплі і няма да каго скласці прэтэнзію.

Да таго ж, у "Законе аб правах спажыўцоў" запісана, што "патрабаванні спажыўцоў разглядаюцца пры прад'яўленні чэка" (арт. 10, п. 4).

Старшыня Маладзечанскай арганізацыі **Уладзімір Клешч** раіць: каб потым вы маглі даказаць факт куплі, патрабуйце ў прадаўца чэк ці іншы дакумент, дзе будуць пазначаны прозвішча і ініцыялы прадаўца, назва тавару, дата здзелкі, кошт і подпіс прадаўца.

П. 5 таго ж дэкрэта гаворыць: "прыём наяўных грашовых сродкаў без выкарыстоўвання адрыўных талонаў ці касавых чэкаў НЕ ВЫЗВАЛЯЕ індывідуальных прадпрымальнікаў ад выдачы спажыўцу таварнага чэка ці іншага дакумента, які пацвярджае пакупку тавараў".

Такім чынам, калі вам не даюць чэк, лепш не купляйце тавар, бо вы пазбаўляецеся гарантый вярнуць свае грошы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



**Выбары-2001**



**Да выбараў прэзідэнта засталося 58 дзён**

■ **ГОЛАС НАРОДА („ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН" 69667)**

# Ці прызнае Масква вынікі выбараў

**Леанід Посахаў, Маладзечна:**

– Мяркую, што ў бюлетэнях будуць тры асноўныя кандыдаты. Першы – гэта **Лукашэнка**, другі – апазіцыйны (адзін з "пяцёркі", хутчэй за ўсё, **Домаш**), трэці – прамаскоўскі – **Марыніч** ці **Сініцын**.

Па выніках першага тура ніхто не пройдзе. Хаця не лічу, што выбары будуць справядлівыя. Мяркую, Лукашэнку дапамогуць. Абавязкова будзе "рука Масквы". Але Масква пасля выбараў не прызнае нікога.

У бліжэйшы час у краіне ўключаць друкарскі станок, пойдуць грошы, пад іх выкінуць тавары з рэзерваў. І ежы будзе хапаць, і грошай. А потым не стане нічога. Грошы, праўда, застануцца, але імі, хіба, у печцы можна будзе паліць.

Але я за тое, каб выбары прайшлі справядліва. І няхай пераможа той, хто на самой справе набярэ большасць галасоў.

## Выбары 65 год таму

**Гісторыю расказаў сведка тых падзеяў, цяпер валожынскі пенсіянер. 1936 год. Валожыншчына на той час знаходзілася ў складзе Заходняй Беларусі, пад польскай уладай.**

– Тады выбіралі не асобных людзей, але галасавалі за партыі. Мой бацька быў камуністам. А камуністычную партыю не рэгістравалі, таму яна не ўдзельнічала ў выбарах.

Выбарчыя бюлетэні былі не такія, як цяпер. Друкарскім спосабам стаяла толькі "партыя ўлады", прытым пад першым нумарам. Астатніх проста дапісвалі ад рукі. Той год у спісе было 24 партыі. Бацька недзе ўзяў бюлетэні, сабраў хлапчукоў, што ўмелі пісаць, і яны дапісалі камуністаў пад дваццаць пятым нумарам.

Калі адкрылі урны, то падлічылі, што за камуністаў прагаласавала каля трох чвэрцяў выбаршчыкаў, яшчэ прыкладна чвэрць – за дзяржаўную партыю ("пілсудчыкі").

У акруговай камісіі паўстала пытанне, які вынік занесці ў пратаколы. Бацька агітаваў за тое, каб пісаць, што ёсць на самой справе. Але ў цэнтр пайшлі звесткі пра тое, што перамаглі "пілсудчыкі".

А бацьку "за актыўнасць" адправілі ў турму.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ**

# Погляд на гісторыю апошняй вайны

**Працяг. Пачатак у №№ 25-26.**

А колькі пастрыжаных "пад Катоўскага" вось так і расстралялі...

І хлопчыкі такія з выгляду нават прыгожыя: форма, узбраенне – усё акуратненькае. На вялікай спражцы – свастыка, над якой "Гот міт унс" ("з намі Бог"). А каб яшчэ паказалі "Запаведзі нямецкага салдата" – ну, анёлы зялёныя... Вось хаця б 7-ы пункт іх: "Упэўнены ў сабе, але сціплы, прамы і сумленны, багабаязны, стрыманы, непадкупны павінен быць салдат, служачы ўсім прыкладам мужнай сілы. Толькі поспехі даюць права на гордасць" ("Радзіма", "Другая сусветная вайна: 1939–1945 – невядомыя старонкі", стар. 28. Пераклад аўт.). Яшчэ мы ўбачым гэтых "сціплых" і "сумленных", "багабаязных" і "стрыманых"...

Сапраўды, яны пакажуць, як трэба...

Ці рабавалі франтавікі насельніцтва? Я не бачыў. Неяк запатрабавалі, каб вёска наша ім карову "паставіла". І тут дзядзька Андрэй прапанаваў сваю: усё адно некалькі год ялоўкай ходзіць. На свае вочы бачыў, як афіцэр заплаціў за карову 65 марак. Акупацыйных, натуральна.

Але за франтавікамі, у іх "абозе", рухаліся "дзеці сатаны". Вось тыя і паказалі, як...

*Спынім грукат смерці*
*Каму і з кім не па дарозе?*
*Дабру і злу! Мяркуйце самі:*
*Дабро – у поле, хлеб расціць,*
*А зло – касцямі, чарапамі*
*У Курапатах дол масціць.*

**Ніл Гілевіч**
**"Каму і з кім не па дарозе?"**

Уявім, што мы спынілі падрыхтоўку Нямеччыны да вайны на рубяжы 28.1.1941 года, амаль за шэсць месяцаў да нападу на СССР.

Генералу Гальдэру, начальніку генштаба сухапутных войскаў, у той дзень далажылі, што "бензінам... забяспечаныя на першыя тры месяцы аперацыі", "натуральным каўчукам – да канца лютага" (г. зн., на 1 месяц – аўт.), "дызельнага паліва... толькі на адзін месяц". Таму на ўсю вайну супраць СССР адводзілася... "толькі тры месяцы!" (Гальдэр "Ваенны дзённік", т. 2, ст. 335–339).

Вось табе і на! А як жа далей? Вельмі проста: "Усё астатняе – за кошт мясцовых рэсурсаў заваяваных краін". Выходзіць, і за кошт Беларусі.

А калі ўлічыць, што на разгортванне аперацыі патрабавалася дымам пусціць многія тысячы тон паліва... А тут яшчэ з 6 па 18 красавіка 1941 года немцы з хаўруснікамі пакаралі Югаславію, затым да канца мая – Грэцыю. Дык колькі засталося ў іх таго паліва пасля?

Выходзіць, планавалася немцамі шалёная авантура! І каб толькі іх на пару месяцаў затрымалі на граніцы, ім бы і канчатковы капут тут жа.

Але гітлераўцы, здавалася, улічылі ўсё: і жудасныя масавыя рэпрэсіі ў СССР, у выніку якіх былі знішчаныя многія мільёны жыхароў: і найбольш актыўная частка насельніцтва, і камандны склад арміі. І зверствы НКУС у перыяд індустрыялізацыі, і калектывізацыю, і партыйныя чысткі, і вынішчэнне нацыянальных меншасцяў, і.., усяго не пералічыш, бо гэта наша бяда – барацьба НКУС супраць уласнага народу. Таму Гітлер пераконваў падначаленых, што СССР – гэта калос на гліняных нагах. Народы СССР абараняць сталінскі рэжым не будуць. Салдаты адразу здадуцца ў палон пасля першага ўдару.

Вось і ўся аргументацыя пераваг дыктатара фашысцкай Германіі перад дыктатарам той краіны, якую гітлераўцы збіраліся разграміць за два–тры месяцы.

Што нам неслі фашысцкія агрэсары

"Новыя дзяржавы павінны быць сацыялістычныя, але без уласнай інтэлігенцыі" (Гальдэр "Ваенны дзённік", т. 2, стар. 430)

Гітлер яшчэ 21.7.1940 (!) года заявіў, што на захопленых абшарах будуць створаныя Украіна, Беларусь і федэрацыя Прыбалтыйскіх рэспублік. Пазней ён акрэсліў іх ролю як буфераў Трэцяга Рэйха, у якіх будзе ўласнае кіраўніцтва, з якімі Германія заключыць мір. Туды меркавалася прызначыць камісараў Рэйха для кіраўніцтва палітычным будаўніцтвам. Было створанае і Міністэрства акупаваных усходніх земляў (ОМІ). Як у той беларускай прымаўцы: жарабя яшчэ ў бруху, а цыган доўбню рыхтуе. Але гэтыя планы Гітлера былі, відаць, вядаць, вядомыя тады толькі вышэйшаму кіраўніцтву Рэйха.

Узгадваецца Вілейка ў канцы чэрвеня 1941 года. Мой бацька Іван Фаўставіч гаворыць з афіцэрам Вермахта, які часта завітваў да нас:

– Пане афіцэру! А чаму вы напалі на Расію? Гэта ж бяскрайняя веліч... Вам не хопіць войска заняць яе без бою нават, не тое што з баямі.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

**Працяг будзе.**

■ **ПАМЯЦЬ**

# 60-я ўгодкі Вілейскай трагедыі

**Верасень 1939 года сімвалізаваў новую эпоху ў жыцці Заходняй Беларусі. Яе тэрыторыя пакрылася сеткай турмаў, у якія заключалі тых, хто лічыўся сацыяльна небяспечным для камуністаў. Пачаліся арышты сялянаў, памешчыкаў, асаднікаў, чыноўнікаў, служачых, інтэлігенцыі. Савецкія турмы на Заходняй Беларусі ведалі ўсе. Баранавічы, Валожын, Ліда, Нясвіж, Навагрудак, Слонім, Стоўбцы, Беласток, Маладзечна, Гродна, Ваўкавыск, Ломжа, Брэст, Кобрын, Пружаны, Ашмяны, Глыбокае, Пінск, Драгічын, Столін, Вілейка.**

4 снежня, ужо пасля прыняцця Заходняй Беларусі ў склад БССР, была ўтвораная Вілейская вобласць, і мясцовая турма пачала выконваць функцыі абласной. Па дадзеных з савецкіх афіцыйных дакументаў, на 10 чэрвеня 1941 года ў вілейскай турме налічвалася каля 1023 вязняў, у тры разы быў перавышаны польскі ліміт (350 чалавек). У турму звозілі вязняў з усяе Вілейскае вобласці, то бок з Маладзечанскага, Смаргонскага, Ашмянскага, Радашкоўскага, Пастаўскага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Мядзельскага, Дзісенскага, Браслаўскага, Друйскага раёнаў.

22 чэрвеня 1941 г. у дзень пачатку нямецка-савецкай вайны быў выдадзены загад аб эвакуацыі вязняў заходнебеларускіх турмаў. Вілейскіх мусілі накіраваць у Разань. Станцыю ў Маладзечне, дзе іх перасаджвалі на цягнікі, бамбілі нямецкія самалёты, таму было вырашана перакінуць арыштаваных у Барысаў, а адтуль ужо праз Оршу, Вязьму, Маскву вывезці ў Разань.

Арыштаваныя павінныя былі за 5 дзён прайсці пехам 180 кіламетраў да Барысава. Дарога ішла праз Сосенку, Ілью, Плешчаніцы і далей да Барысава. У загадзе па плане эвакуацыі, падпісаным Чарнышовым, былі вызначаныя 1023 вязні, хаця польскія даследчыкі прыводзяць лічбы ад 1500 да 1800 чалавек. Самі вязні вілейскай турмы ў сваіх рэляцыях называюць лічбу эвакуяваных у 2000 асоб.

Акцыя пачалася 24 чэрвеня ў другой палове дня. Спачатку ў камеры зайшлі вартаўнікі, якія зачыталі атрыманыя ад лекара спісы хворых і нездольных да маршу. Тыя, чыё імя было агучана, засталіся ў камерах, астатнім загадалі сабраць рэчы, пакінуць у камерах матрацы (сеннікі) і іншыя цяжкія рэчы. Каля 16 гадзін дня вязняў, апрача пакінутых папярэдне ў камерах хворых і нямоглых, вывелі на турэмны двор. Каля 200 чалавек, якія падпадалі пад расстрэльны артыкул, адвялі за турэмную браму і расстралялі. Мажліва, што сведкі тых падзеяў перабольшваюць, але расстраляных было ў любым выпадку некалькі дзесяткаў.

Пра лёс расстраляных пад мурамі турмы паведаміў нам Васіль Місюль. Рэляцыю пра падзеі ў Вілейцы ён падаў у траўні 1954 г. камітэту Кангрэса ЗША, што даследаваў камуністычныя злачынствы.

*"Іншы, яшчэ больш жудасны абраз бальшавіцкай апекі на беларускіх землях я бачыў пасьля таго, як бальшавікі ўцяклі з Вялейкі перад наступаючымі нямецкімі войскамі. Калі ўсе ўпэўніліся, што наехаўшыя з Савецкай Расеі бальшавікі ўцяклі, а іх мясцовыя памоцнікі пахаваліся, то шмат народу захацела адведаць турму, з якой у начы выгналі ўсіх арыштованых невядома куды. У турме нашым вачом паказаліся абставіны, у якіх бальшавікі трымалі людзей і якіх нельга было забыцца да сьмерці. На ніжэйшым паверху камэры былі высака забалочаныя нячыстотамі, урынай, бруднай саломай. Вышэйшыя камэры былі пазаліваныя нячыстотамі з парашак. Смурод у будынку быў не да вытрыманьня.*

**Заканчэнне будзе.**

**Алег ГАРДЗІЕНКА.**

■ **ВЕЛАТУРЫЗМ**

# Маршрут выхаднога дня

**МАЛАДЗЕЧНА. 13 хлопчыкаў і дзяўчынак з 4–5 класаў СШ №12 зрабілі велапаход па маршруце Маладзечна – Вялікая Паляна – турбаза "Вілія" – Маладзечна.**

Адпраўленне ад СШ №12 – 8-15

Прыбыццё ў назначаны пункт (Вялікая Паляна) – 12-30

Час ад'езду назад у Маладзечна – 17-15 з турбаза "Вілія"

Прыбыццё на канцавы пункт (у Маладзечна) – 20-05

Маршрут склаў не менш, як 35 кіламетраў. Патрэбна было везці абед і асабістыя рэчы, таму было даволі складана, але ўсе паспяхова справіліся. Былі нават прапановы зрабіць паход яшчэ раз і на больш працяглы тэрмін.

**Міхаіл ЕСЬМАНОВІЧ.**

**1 прывал** – інфекцыйная бальніца. Прыгожае месца з лаўкамі і дахам. Можна схавацца ад дажджу, перакусіць, парамантаваць веласіпеды.

**2 прывал** – адразу за паваротам на Чарчонава ў 1–2 кіламетры 10 хвілін у лесе.

**3 прывал** – каля дачнага пасёлка, дзе падмацаваліся і адпачылі (недзе 25–30 хвілін.

**4 прывал** – у мястэчку Слабодка, дзе жывуць вельмі ветлівыя дзядуля з бабуляй. Тут можна купіць бульбы, малака, на што мы ахвотна згадзіліся.

Праз метраў 800 – **канцавы пункт** В. Паляна побач з турбазай "Вілія". Тут і міні-футбол, і валейбол, і ўдасканальванне турысцкіх навыкаў, і паласканне ног у Віліі, і гарачая печаная бульба, і многае іншае.

У 17-15 – **старт з турбазы "Вілія"** да Маладзечна 15 кіламетраў з трыма прываламі ў раён Лясных.



© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Гульня да першага гола

**7.07 Маладзечна-2000 – Нёман-Белкард (Гродна) 0:3**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**ФК «Маладзечна-2000» – «Нёман-Белкард». У атацы госці. Навесу Віктара Юйко ў штрафную пляцоўку спрабуе перашкодзіць Дзмітрый Кабельскі. Крайні злева, у белай форме, - лепшы бамбардзір гродзенцаў Сяргей Давыдаў. У сезоне ён забіў 9 галоў – якраз столькі, колькі ўвесь ФК «Маладзечна-2000». У гэтай гульні забіць яму не даў Аляксандр Сысой (на здымку ён у цэнтры).**

**Суддзя:** Жук (Мінск).

**Галы:** Дзенісеня (73), Кавалевіч (81 – пен.), Кавалёнак (90).

Сідарэнка Турчыновіч (Макрыцкі, 76)
Міхалёў (кап.)
Тартоўскі (Вільтоўскі, 58) Мігас
Карпіленка (Дараховіч, 33)
Кабельскі
Бычкоўскі Азаронак
Сысой
Рубацкі

**Лепшы, па версіі "РГ"**, Дараховіч (другі раз у сезоне).

**Запасныя**: Сцепановіч, Муравейнікаў.

Матч пачаўся са спазненнем: на стадыёне не аказалася "хуткай дапамогі". Праз чвэрць гадзіны пасля пачатку гульні яна спатрэбілася: "дзявятка" гасцей **Віталь Тарашчык** не змог самастойна падняцца пасля нязграбнага падзення ў штрафной – пераломам левай ключыцы.

Дэбютаваў на месцы апошняга абаронцы **Сысой**. Як і ўся задняя лінія гаспадароў, 73 хвіліны ён адгуляў амаль без памылак. У гасцей другі бамбардзір краіны **Сяргей Давыдаў** нічога не паказаў, і яго замянілі ў пачатку другога тайма.

У першым тайме госці адзначыліся моцным ударам **Юйко** ў блізкі вугал (**Рубацкі** быў на месцы) і гарматай **Надзіеўскага** пасля таго, як варатар нечакана выпусціў мяч з рук (вышэй варотаў). Гаспадары рэальных момантаў мелі таксама няшмат. У пачатку матча **Сідарэнка** няўдала падставіў галаву пад мяч, які паляцеў вышэй варотаў. Хаця нападаючы знаходзіўся проста па цэнтры ў некалькіх метрах ад варотаў.

Найбольш рэальны шанц адкрыць лік меў **Дараховіч**, які выйшаў на замену па ходзе першага тайма. На 43 хвіліне ён прабег з мячом пару дзесяткаў метраў, апынуўся ў выгаднай пазіцыі (16 метраў да варотаў) і ўдарыў – мяч са звонам адскочыў ад стойкі.

Другі тайм праходзіў у падобным ключы: ішла ўпартая барацьба ў цэнтры поля пры мінімуме галявых момантаў. Вырашыў лёс матча **Дзенісеня**, які замкнуў флангавую перадачу ўдарам галавой. Мяч заляцеў у самы вугал варотаў.

"Маладзечна" пайшло ў атаку, але, акрамя некалькі бяспечных удараў па варотах, нічога не стварыла. А "Нёман", наадварот, "панесла".

Праз хвіліну Дзенісеня выйшаў сам-насам з варатаром (Рубацкі выратаваў).

На 81-й хвіліне **Кавалёнак** у барацьбе з **Кабельскім** аддаў пас на **Мазалеўскага**, які знаходзіўся ў штрафной. Вызначыцца гродзенцу перашкодзіў Сысой, бо заваліў яго на зямлю. Другі раз засмуціў Рубацкага **Кавалевіч**, які 10 год таму яшчэ гуляў за "Металург".

Затым некаторым балельшчыкам падалося, што Кабельскі выбіваў мяч пасля таго, як апошні перасек лінію варотаў, – гэта **Доля** дабіваў мяч, калі перайграў у верхавой барацьбе невысокага Дараховіча.

Канчатковы вынік устанавіў Кавалёнак, які спакойна абабег Рубацкага і закаціў мяч у безнаглядную сетку.

**Каментарый трэнераў:**

**Людас Румбуціс** (Маладзечна-2000):

– Два розныя таймы. Не выкарысталі шмат добрых момантаў. Галавой біў Сідарэнка, павінен быў забіваць **Турчыновіч**, не пашанцавала Дараховічу.

**Сяргей Саладоўнікаў** (Нёман-Белкард):

Гулялі да гола. Цяжкі быў матч. У нас 4 гульцы асноўнага складу траўміраваныя. Вельмі рады, што ў канцоўцы змаглі забіць.

**Юрый КАРПІЦКІ,**
**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ПАРТРЭТЫ

# Аляксандр Сысой імкнецца прыносіць камандзе карысць

**Нарадзіўся 19 чэрвеня 1979 года. Футболам пачаў займацца ў бабруйскай СДЮШАР-5 ва Уладзіміра Сярогіна. Абаронца. У чэмпіянатах краіны выступаў у вышэйшай лізе за бабруйскую "Белшыну" (1998, 3 матчы, 1 папярэджанне; 1999, 1 матч) і ў другой лізе за фарм-клуб "Бярэзіну" (Бабруйск), у першай лізе за "Маладзечна" (2000, 27 матчаў, 1 гол, 5 папярэджванняў). Выступаў за юнацкія зборныя да 16 і да 18 гадоў.**

**– Табе давялося у складзе зборнай 16-гадовых (разам з Аляксеем Рубацкім) удзельнічаць у адборачным турніры з раз'ездамі, у якім беларусы буйна саступалі галандцам і туркам. Тыя гульні чымсьці запомніліся? Карысць ад іх была?**

– Па маладосці прайшло і забылася. Але, натуральна, паглядзеў, як гуляюць равеснікі з іншых краін, адчуў розніцу. З намі яшчэ **Аляксандр Вострыкаў** выступаў, які летась быў у "Маладзечне".

**– Як прайшоў пераход з "Белшыны"? Як уладкаваліся армейскія справы? У Дзмітрыя Мігаса, з якім разам прыйшлі, практычна ўвесь мінулы год выпаў з-за гэтага?**

– Мяне аддалі ў "Маладзечна" у арэнду па просьбе **Людаса Румбуціса**, які ведаў мяне па рабоце ў Бабруйску. Потым падпісаў тут кантракт. У арміі быў месяц да прысягі і тыдзень перад дэмабілізацыяй.

**– Гуляеш левым абаронцам, але часцяком (у бразільскім стылі) далучаешся да атак. Прычым, валодаючы добрай тэхнікай, бывае, абыгрываеш па некалькі саапернікаў. Няма жадання памяняць амплуа? Дарэчы, на якіх пазіцыях даводзілася гуляць?**

– Усё залежыць ад трэнерскай устаноўкі. Калі трэба падключыцца, дапамагчы ў атацы, то імкнуся гэта зрабіць. Галоўнае – прыносіць камандзе карысць. А раней гуляў і паўабаронцам, і нападаючым.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Аляксандр Сысой у дамашняй гульні з «Шахцёрам». На заднім плане – Аляксей Муравейнікаў.**

**– Большасць гульцоў каманды прыблізна таго ж узросту. Наогул, "Маладзечна-2000" вылучаецца ў беларускім чэмпіянаце сваёй маладосцю, задорам. Якія адчуванні застаюцца ад гульні, якія жаданні, думкі?**

– Хочацца дамагчыся як мага больш высокага месца. Праявіць сябе з лепшага боку. Павышаць сваё майстэрства.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ КОННЫ СПОРТ

НАРАЧ. Адбылося адкрытае першынство Мядзельскага раёна і Нацпарку «Нарачанскі». Бралі ўдзел тры каманды: мясцовая, з Мінска і са спецыялізаванага калгаса з Глыбоччыны. Перамагла каманда з Нацпарку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

Праз тыдзень у каманду можна дазаявіць гульцоў на другі круг. У "Маладзечна-2000" апошнім часам на праглядзе былі **Вадзім Гаптарэўскі** (1979 г. н., "Славія") і **Ігар Вярбіцкі** (1977 г. н., "Белшына"). Магчымы варыянт з **Уладзіславам Дуксам** са "Смаргоні".

■ ДУБЛЬ

**Маладзечна-2000 – Нёман-Белкард 0:0**

**Склад:** Сцепановіч, Дрозд, Відрук, Сысой (кап.) (Матусевіч, 61), Лужынскі, Млечка, Антановіч (Бурачонак, 87), Альховік, Лявончык, Чарнель (Грыхуцік, 65), Макрыцкі.

Гаспадары валодалі ініцыятывай. У першым тайме **Антановіч** добра выканаў штрафны ўдар, але варатар паспеў выбіць мяч з верхняга вугла. Засмуцілі рэалізацыяй галявых момантаў нападаючыя. Спачатку **Млечка**, а потым **Макрыцкі** ў аднолькавых момантах не маглі перайграць **Шляхавога** пасля выхадаў сам-насам.

У каманду прыйшлі маладыя выхаванцы ДЮСШ, якія выступаюць за ФК "Беразінскае", – **Ясюкевіч, Харэцкі, Асіповіч**.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**8.07 Забудова – Вертыкаль (Калінкавічы) 1:3**

**Галы:** Міпановіч (49); 30, 73, 76.

**Склад:** Мядзведзеў, Яцына, Ал. Канапелька, Астапенка, М. Мятліцкі, Садчанка, Міпановіч, Казлоўскі, Татун, Дзіковіч, Парашчанка (Ан. Канапелька, 78).

Адзін з лідэраў першынства не паказаў сваю лепшую гульню, нягледзячы на забітыя галы. Перавага гаспадароў была відавочная, толькі ў заключнай стадыі атакі чагосьці не хапала. Чаго, дарэчы, хапіла гасцям – рэалізацыі галявых момантаў. Дадавала цікавасці гульні і судзейская брыгада, якая адмяніла другі гол **Міпановіча** і "не заўважыла" парушэнне ў штрафной "Вертыкалі", а яно цягнула на 11-метровы. Апошнія два галы **Мядзведзеву** правялі пасля памылак абаронцаў.

З-за праблемаў са складам ужо другі раз запар у поле выходзіць гуляць варатар **Андрэй Канапелька**.

**Дзяніс Мятліцкі** прапускаў гульню, бо паспеў атрымаць 4 жоўтыя карткі. Наступны матч не згуляе ўжо яго бацька, **Мікалай Мятліцкі**. Ён чацвертую картку атрымаў у гэтым матчы.

**8.07 Смаргонь – Старыя Дарогі 1:1**

**Смаргонь:** Кліменка, Іваноў, Чарнуха, Курак, Якубіцкі, Шпілеўскі (Дукса, 70), Відук, Селіванаў (Шаблінскі, 63), Дзігілевіч, Каўрыга (Русаковіч, 85), Шпакоўскі.

**Галы:** Шпакоўскі (15); 66.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ФІНАЛ КУБКА МАЛАДЗЕЧНА

**Унікаб – Сябрына 0:4**

10.07. Гарадскі стадыён, 100 чал.

**Суддзя:** Віктар Дзмітрачкоў (нац. кат., Маладзечна).

**Унікаб:** Будрык, Шэк (Бабаеў, 77), Залескі, Капыш, Шыла (Гардынец, 80), Гневышаў, Кізік, Фірсанаў (Дзівас, 65), Будкевіч (кап.), Ярашэвіч, Буйвіт.

**Сябрына:** Мялюк, Субач (Шыян, 69), Нядзелька, Лепеш (А. Талькоўскі, 68), Казлоўскі (Г. Талькоўскі, 46), Івашкевіч, Чарняўскі (Радкевіч, 64), Галубко (кап.), Казяк, Вяжэвіч, Рысік.

**Галы:** Галубко (51), Вяжэвіч (64, 67, 88).

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

# Праляцелі міма «тройкі»

**МАЛАДЗЕЧНА. Паражэнне ў заключным туры адкрытага чэмпіянату Беларусі адкінула зборную МЛФП на 7 месца.**

Такім чынам, яна аказалася і па-за межамі тройкі лепшых беларускіх каманд. Выніковая табліца чэмпіянату (другі этап)

| | Г | Пм | Н | Пж | Р/М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Паўночнае ззянне (С.-Пецярбург) | 24 | 14 | 4 | 6 | 97–67 | 46 |
| 2. Заходні Буг (Брэст) | 24 | 14 | 2 | 8 | 83–63 | 44 |
| 3. КСП Тамусінец (Кемераўская вобл.) | 24 | 12 | 5 | 7 | 84–73 | 41 |
| 4. Спартклуб (Масква) | 24 | 11 | 6 | 7 | 85–71 | 39 |
| 5. ПГС-235 (Брэст) | 24 | 12 | 0 | 12 | 81–78 | 36 |
| 6. КАФП-Мінск (Мінск) | 24 | 11 | 3 | 10 | 70–79 | 36 |
| 7. МЛФП (Маладзечна) | 24 | 11 | 1 | 12 | 79–77 | 34 |
| 8. ЛФГСШ (Мінск – Клецкі раён) | 24 | 10 | 4 | 10 | 67–79 | 34 |

Чэмпіёнам Беларусі стала расійская каманда. 7 ачкоў, якія яна набрала ў сямі гульнях другога этапа, хапіла піцерцам для таго, каб стаць першымі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**13.07 Дубль: Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Маладзечна-2000**

**14.07 Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Маладзечна-2000**

+4=5-7 19-29. Апошні матч 21.08.99, Маладзечна 1:1 (Макрыцкі).

**14.07 Вертыкаль (Калінкавічы) – Смаргонь**

+1=0-1 3-2. Летась 1:2 на выездзе і 2:0 дома.

**14.07 Пінск-900 – Забудова**

